# Ніва


БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 36 (810) ГОД XVI БЕЛАСТОК 5 ВЕРАСНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.



# Ад людзей — для людзей

Наша сустрэча з тав. мгр Дзмітрыем Ігнацюком — старшынёй Прэзідыума ПРН у Бельску Падляшскім не магла быць доўгай: старшыня не любіць разводзіцца на тэму сваёй працы, ён любіць з сэрцам працаваць сам і вымагае саліднай працы ад сваіх падуладных. Гэта мне стала вядома, як толькі я пераступіў парог будынка Прэзідыум ПРН, аб гэтым гаварылі і служачыя і наведвальнікі рады.

— У чым заключаецца новы стыль працы з людзьмі, які вы, таварыш старшыня, настойліва ўводзіце ў органах павятовай і грамадскіх радаў у Бельскім павеце ад пачатку сваёй працы тут?

— Мне не хацелася б называць гэта громкім словам «стыль», — скромна заўважае тав. Ігнацюк. — Проста я дамагаюся таго, каб служачы грамадскай ці павятовай рады бачыў у наведвальніку **чалавека** і каб **па-людску** адносіўся да яго. Патрабую, каб служачы падышоў са зразуменнем да справы і палажэння таго, хто звярнуўся з просьбай ці нейкай праблемай. Проста часам раю: калі вам штонебудзь не падабаецца ў справе, вы ўявіце сябе самога ў палажэнні гэтага чалавека, што сядзіць ці стаіць перад вашым сталом. Як вы чуецеся на яго месцы? Не зусім добра, праўда? Значыць, трэба так афарміць справу і абысціся з наведвальнікам, як бы вы хацелі, каб такая справа была вам аформлена, і аднесціся да яго, як вы хацелі б, каб да вас аднесліся ў дзяржаўнай установе. І таму патрабуецца ад служачых, каб яны не вымагалі ад людзей лішніх паданняў ці рознага роду справак (засведчэнняў), бо не ў паперцы ляжыць сутнасць. Служачы сам павінен зрабіць рапарт ці нататку і адразу прыступаць да вырашэння справы. Не можа быць і мовы аб тым, каб адсылаць чалавека ад адных дзвярэй у другія. Прыйшоў да цябе чалавек па справе, за яго цябе і разлічым.



Працяг на стар. 4

# З добрым пачаткам!

Адзвінеў ужо першы званок у школах. Пачынаюцца рэгулярныя заняткі новага 1971/72 навучальнага года.

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і калектыў рэдакцыі «Нівы» ў сувязі з пачаткам заняткаў у школе складаюць усім настаўнікам сардэчныя пажаданні плённых вынікаў у працы і асабістага задавальнення з адказнай ролі выхавацеляў маладога пакалення нашай сацыялістычнай краіны. Усім вучням жадаем зрабіць у гэтым годзе вялікі крок наперад у авалоданні ведаў і ўменняў, каб у будучыні стаць светлымі людзьмі і ахвярнымі грамадзянамі нашага цудоўнага краю.

Новы навучальны год пачынаецца ў атмасферы паўсюднага абнаўлення і ажыўлення гаспадарчага і грамадскага жыцця. Працоўныя подзвігі рабочых, сялян, інтэлігенцыі павялічваюць заможнасць і моц нашай краіны. Шахцёры ўжо здабылі 500 тысяч тон вугалю звыш плана, чыгуначнікі перавезлі мільёны звышпланавых грузаў, тэкстыльшчыкі выпрацавалі дадаткова сотні тысяч метраў тканін. Амаль штодня датэрмінова ўваходзяць у строй новыя заводы і фабрыкі, здаюцца да ўжытку сотні новых дамоў, выплываюць у мора новыя судны. У згодным працавітым рытме жыцця ўся краіна рыхтуецца дастойна сустрэць VI З'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі, які ацэніць дагэтуляшнія дасягненні і вызначыць новыя перспектывы нашаму грамадству.

І школа — арганічная частка нашага грамадства — уносіць свой уклад у агульнае дабро. Старанная падрыхтоўка да ўрокаў, сістэматычная праца над грунтоўным авалоданнем ведамі і ўменнямі па ўсіх прадметах, звычай пашаны да грамадскай маёмасці, дапамога старшым і дбайнасць пра тое, каб уласнымі стараннямі ў чысціні, ладзе і прыгожа ўтрымоўваць свой клас, сваю школу і наваколле сваёй школы — вось толькі некалькі з тых шматлікіх заданняў, якія заўсёды стаяць і перад настаўнікамі і перад вучнямі.

Асаблівай сардэчнасцю і пашанай акружым усе мы ўрокі нашай роднай беларускай мовы — самую вялікую скарбніцу нашага народа. Няхай заняткі па роднай мове стануць найпрыямнейшай і найпрыгажэйшай часінай у школе, няхай нас натхняюць словы светача беларускай літаратуры Якуба Коласа: «Роднае слова — гэта першая крыніца, праз якую мы пазнаём жыццё і акаляючы нас свет. Таму нам неабходна так старанна вывучаць сваю родную мову, ведаць і любіць лепшыя творы беларускай літаратуры. І перш за ўсё трэба ведаць свой народ, яго гісторыю, яго багатую вусную творчасць».

З добрым пачаткам, дарагія настаўнікі і моладзь!



*Народны фестын Беларускага таварыства ў Рыбаках. (Чытайце фотарэпартаж на 5 старонцы)* Фота ЦАФ — Савіцкі

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 153


*З ранейшага — МІКАЛАЙ ГАЙДУК*

## СЕНАКОС

*Адзвінелі ўжо косы —*
*Спала з травай срэбра рос,*
*Ідзе гурбой квяцістай, босай*
*Касцам змена ў сенакос.*
*Ідуць дзяўчаты спеўным кругам*
*Шнур пакосаў варушыць,*
*Ды пластуюць зелень луга*
*У пахучы рад капіц.*
*Песня з песняю спляляся,*
*Звіняць жарт і смех;*
*Толькі рэчка ў летняй смазе*
*Жывой прохаладдзю тхне.*
*Праца спорыцца. З гамонкай*
*Звіт апоўзень, выслан сцежар*
*І тыкло з бярозы гонкай*
*Стала ў лузе стромкай вежай.*
*Сонца ўніз зірнула коса*
*Вокам суму і тугі:*
*Мест раўніны ціхай, роснай,*
*У лузе высяцца стагі!*



## ПРЫХОД ВОСЕНІ

Праляцела мігам лета,
Адсвяціў маланак зніч.
Зайграў у паднебі дзесь там
Жураваў і качак кліч.

Сабірае ў падол шэры
Восень летнюю красу,
Налівае ў садзе бэры,
З павуціння ўе касу.

Рана топіць у туманах
І балота і выжары
Блудзіць з вогнікам абманным
Да паўночнае пары.



*

*Шчаслівай усмешкаю*
*губы ласуюцца,*
*іскрынкамі*
*вочы гараць.*
*Шчокі гарачыя,*
*сэрца юначае*
*чуе —*
*кахання пара.*

*Радасцю п'яніць*
*і коіць пяшчотаю*
*сэрцы гарачыя*
*два.*
*Вечар нясмелыя*
*і анямелыя*
*іх пацалункі*
*хаваў.*

Л. ТАНКЕВІЧ



## Алесь Барскі

*

Хмара гнеўная
ружа чорная
свет авеяла
свет агорнула
а нам весела
а нам сонечна
бо завесіла
радасць звонікі
і спяваем мы
разам з шырамі
і плывуць чаўны
шчасця шчырага
як не вырасці
вішні з вішанькі
песні з радасці
шчасцю з песенькі

*

У глебе блакіту твайго
нарадзілася сонца
шугнуў з яго вецер
і выцвілі зоркі
і я з яго выйшаў
як продак наш з пушчы
на поле прастору
і здзіўлена глянуў
на голае поле
якое здалося мне
цеснай няволяй
і зноў павярнуў
у пушчу блакітную
каб стаіцца зноў дрэвам
твайго краявіду
і словы шаптаў
— Не гані не кідай
я нявольны палонны
у шыры адкрытай
і цалкам свабодны
у кроплі
блакіту

## У ВЁСЦЫ

*Мне тут па-простаму хораша*
*і па-харошаму проста...*
*Вёска, нязменная доктарша,*
*душу маю выпроствае.*
*Тут забываю пра клопаты,*
*пра гарадскую няўтульнасць...*
*Вёска гаючай пяшчотаю*
*лашчыць мяне, як матуля.*
*Думкай сваёю кожнаю,*
*рыскай сваёю кожнаю,*
*ў полі калючай пожняю*
*вёска мяне заварожвае...*

*МІХАСЬ МЕЛЬНІК*

## СТАН сканцэнтравання

**Не**
**не**
**хачу маўчаць**
**доўга**
**глыбока**
**тым часам**
**прапаную**
**нябеснае чытанне**
**маіх вачэй**
**на хвілях маўчання**
**даглядаю**
**мыслення руно**
**не бамбіце**
**мыслення**
**словамі**
**калі не з'яўляюцца**
**адкрыўчымі**

**ЯША БУРШ**



### КАЗКА З ГАЙНАЎСКАГА ПАВЕТА

Даўно гэта было. Жылі-былі тады пан і мужык. У суседзях век хадзілі: мужыкова васьмуха[1]) цераз мяжу ад панскіх абшараў, бы нітачка, вілася. Меў гэты мужык статак быдла. Раз тое быдла зайшло на панскі папар[2]). Слугі панскія быдла занялі і ў хлявы дварскія загналі. Стаў мужык пана прасіць, каб той быдла аддаў. А ён і гаварыць не даецца.

— Падавай, — кажа, — мяне ў суд.

Мужык тут і думае: не прападаць жа карове і дзвюм цялушкам. Дый падаў пана ў суд.

А пан той у ваколіцы вучонасцю сваёй славіўся. Мужык жа — калі і даводзілася яму распісацца падатак плоцячы ці на суд павестку бяручы — усюды крыжыкі каравыя ставіў; непісьменным, значыць, быў.

Вось і падаліся пан і мужык аднаго ранку ў мястэчка на справу. Мужык, як балавец толькі стала на ўсходзе, пешкі ў мястэчка падрыпаў, а пан — недзе пад поўдзень — у брычцы, варанымі запрэжанай, пакаціў.

Вядома, справу выйграў пан.

Выйшлі яны з суда. Пан і кажа:

— Бачыш, дурню, што значыць навука!

Мужыку, хоць і пяты дзесятак гадкоў ужо стукнула, думаецца: «Давай і я пайду навучуся».

На другі дзень пайшоў ён у школу, што сярод вёскі ля царквы стаяла. Зайшоў ды кажа настаўніку:

— Я вучыцца да вас, паночак, прыйшоў.

Глянуў настаўнік на мужыка ды гаворыць:

— Запозна ўжо, мілы чалавек, на навуку.

Вярнуўся мужык дамоў. Назаўтра падняўся ён пасля другіх пеўняў[3]) і зноў у школу павалокся. Прыходзіць, а школа яшчэ на замку. Прысеў ён на ганку і думае: «Ну, сёння то на час прыйшоў я...» Але вось прыходзіць настаўнік, і мужык яму зноў сваё:

— Вучыцца хачу.

— Запозна... Казаў жа я вам яшчэ ўчора, — цвярдзіць той.

— То ж я даўно ўжо тут. Яшчэ сяло ўсё спала, як сюды прыйшоў.

А настаўнік яму:

— На навуку табе ўжо запозна, кажу. За стары ты! Бач, сівыя валасы ў тваёй барадзе, чалавеча.

Узяўся мужык у задуме за сваю бараду і павярнуў дахаты. Ідзе ён так вуліцай, вочы ў зямлю ўпёршы, ды бачыць: ляжыць партфель нейкі. Мужык за яго — а там поўна грошай.

Хоць і маўчаў мужык аб знаходцы, бы рыба, ды што ты ад суседзяў у вёсцы ўтоіш? Праз дзень які чутка аб знойдзеных грошах і да панскага двара дайшла. А пан дні два таму гавяду[4]) купцу прадаў ды гандлярам пшаніцу вельмі выгадна збыў, а грошы недзе не па-цвярозаму зацярушыў. Распытаў ён у людзей, колькі тых грошай у мужыка, ды ў якім яны партфелі былі.

— Мае гэта грошы, — сцвердзіў, — і ўмомант вярхом на кані да мужыка паскакаў.

— Аддавай, — крычыць, — гэта ж мае грошы. Учора вечарам, з мястэчка едучы, згубіў я.

А мужык яму на тое:

— А ты маё быдла аддаў?

Так і пайшоў пан з мужыковай хаты ні з чым. Падаў ён мужыка ў суд. Настаў дзень судовай справы.

Суддзя і пытаецца мужыка:

— Калі ты грошы знайшоў?

Той і кажа:

— Высокі судзе, тады гэта было, як я са школы ішоў...

Тут суддзя і кажа пану:

— Гэта ж вельмі даўно было!.. Пане Мандральскі, справа зайшла ў даўнасць. Няма чаго вам тут па судах валачыцца.

Вось так хоць раз справу ў судзе выйграў мужык.

*Апрацаваў Алесь Чабор*






[1]) васьмуха — інакш: восьмая частка ўчастка, г.зн.: 3 га, калі ўчастак меў 24 га; 2 га, калі ўчастак меў 16 га і г.д.

[2]) папар — адна трэцяя частка поля, якую пры трохпольнай сістэме гаспадарання пакідалі на адзін год «адпачываць», г.зн. не засявалі або сеялі на ёй лубін на зялёнае ўгнаенне.

[3]) калісьці ў вёсцы, звычайна, не было гадзіннікаў і час пазнавалі па зорках, месяцы або спеве пеўняў, г.зн.: першыя пеўні — гадзіна 11—12 ночы, другія — 1—2 раніцы і г.д.

[4]) гавяда — інакш: быдла, г.зн. валы, каровы, цяляты.






*Прэзідыум фестына. Справа налева: сакратар БГКТ Янка Зенюк, сакратар беластоцкага аддзела БГКТ Валя Філіпюк, старшыня сельгасгуртка ў Рыбаках Мікалай Міруць (ён адкрывае фестын), намеснік старшыні ПРН у Беластоку — Тадэвуш Вонсэк, старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі, кіраўнік аддзела ўнутраных спраў ПРН Рамуальд Залэнскі, член прэзідыума ГП БГКТ Мікола Самоцік, старшыня павятовага праўлення ЗМВ Сцяпан Нікіцюк, член прэзідыума ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі, старшыня Гайнаўскага аддзела БГКТ Аляксандр Іванюк.*

Ужо стала традыцыяй у Беластоцкім павеце, што кожны год народны фестын БГКТ адбываецца ў Рыбаках над Нарвай, якая з'яўляецца тут граніцай двух паветаў — Беластоцкага і Гайнаўскага. Да гэтага прызвычаілася мясцовае насельніцтва як Рыбакоў, так і суседніх Бандароў, якое кожны год праяўляе многа ахвярнасці ў працы ў час падрыхтоўкі фестына. Фестын у Рыбаках з'яўляецца вялікім святам. Раз у год, у гэты дзень нават за высокую грашовую аплату нікога ў вёсцы не знойдзеш да пасення кароў (пасуць жа чаргою). І стаяць каровы ў хлявах, бо ўсе хочуць быць на ўрачыстасці.

15 жніўня на фестын, прысвечаны 15-ай гадавіне Беларускага таварыства, сабралася больш 3-ох тысяч чалавек з Беластоцкага і Гайнаўскага паветаў. Многіх жыхароў навакольных вёсак заахвоціў на фестын радыёмікробус ЛОК-у, у якім Сяргей Лукашук інфармаваў аб фестыне і ўключаў пасля кожнай перадачы беларускія песні і музыку.

Шмат людзей прыехала таксама з Беластока. Ужо з раніцы абсталяваліся тут кіёскі ГС-у з Міхалова і Гайнаўкі, у якіх былі харчавыя прадукты і розныя напіткі. Абсталяваліся таксама два кіёскі з марожаным і кіёск «Рух» з Беластока з газетамі і кніжкамі.

Пад высокімі вольхамі зроблена была трыбуна, на якую ў 11 гадзін дня ўвайшлі члены прэзідыума фестына. Урачыстасць адкрыў старшыня мясцовага сельскагаспадарчага гуртка Мікалай Міруць. З дакладам аб дасягненнях і ролі БГКТ выступіў старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі. Затым адбылася багатая мастацкая частка, у якой выступілі самадзейныя калектывы з Гарадка, Міхалова, Супраслі і Альмонтаў. Аддзел культуры ПРН (кіраўнік Аляксандр Трусяк) арганізаваў «Свабодную трыбуну песні» для ўдзельнікаў фестыну. Выступіла ў ёй 10 асоб, і ўсе яны атрымалі ўзнагароды. Атрымалі таксама ўзнагароды і ўдзельнікі «Згадуй-згадулі» аб БГКТ і на супрацьалкагольныя тэмы. Вялікай атракцыяй былі спартыўныя розыгрышы валейбольных каманд Шымак, Цісоўкі і Валіл. Спартыўная стральба, арганізаваная ЛОК-ам, прыцягвала да сябе тых, што жадалі праверыць сваю цэльнасць у стральбе.

Калі закончыліся ўсе гэтыя мерапрыемствы, пачалося народнае гулянне на пляцоўцы, па-суседску са школай, пад музыку вайсковага аркестра КБВ-у. Арганізатарам гэтай удалай урачыстасці быў аддзел БГКТ на Беластоцкі павет. Сувганізатарамі з'яўляліся павятовы аддзел культуры, павятовае праўленне ЗМВ, павятовае праўленне ЛОК і ЛЗС, бандароўскі сельскагаспадарчы гурток, супрацьалкагольны павятовы камітэт і жыхары вёскі Рыбакі.

*М. Сваяк*

*Фота Цаф — П. Савіцкі*



*Кіёск «Руху» багаты кніжкамі і часопісамі.*



*На трыбуне гарадоцкі харавы калектыў.*



*«Згадуй-згадуля» аб БГКТ. Вядзе яе Валя Філіпюк.*



*Пры гастранамічным бары ўвесь час было людна.*



*Мастацкі калектыў з Супраслі.*



*Розыгрыш спартыўных каманд Цісоўкі і Шымак.*



*Удзельнікі фестыну.*

# 32 ГАДАВІНА НАПАДЗЕННЯ НА ПОЛЬШЧУ

Знішчэнне соцень гарадоў і тысяч вёсак, смерць дзесяткаў мільёнаў людзей пачалося ў трагічны вераснёвы ранак 1939 года.

Нашэсцем на польскія землі гітлераўскія варвары запачаткавалі здзяйсненне свайго намеру заняволіць народы Еўропы і свету і ўстанавіць тут 1000-гадовае панаванне III Рэйха. Аднак захопніцкія планы фашыстаў сустрэліся з належным адпорам свабодалюбівых народаў. Першыя сталі на жыццё і смерць салдаты Войска Польскага. Здраджаныя сваім камандаваннем і ўрадам, яны ў гераічным зрыве баранілі сваю родную зямлю.

Сярод іх былі і нашыя землякі — хлопцы з-пад Белавежы і Гарадка, Крынак і Сямяціч. Яны побач з польскімі братамі пралівалі сваю кроў на Вестэрплатэ, пад Варшавай, Коцкам і над ракою Бебжай на Беластоцкай зямлі.

(мг)



*Знішчэнне і смерць польскай зямлі неслі гітлераўскія зграі.*

# КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

*Працягваючы серыю марынаваных агуркоў, мы прапануем сёння яшчэ 2 рэцэпты.*

### КАНСЕРВІРАВАНЫЯ АГУРКІ

Кансервіраваныя агуркі адрозніваюцца ад карнішонаў тым, што яны не такія вострыя, гэта значыць воцату ў кансерваваных агурках менш, і іх неабходна пастэрызаваць.

На кансерваванне выбіраюць агуркі не надта вялікія, здаровыя, свежыя, неперaспелыя і непашкоджаныя. Трэба іх памыць, абсушыць, зложыць шчыльна ў слоікі — вэкі, перакладаючы такімі прыправамі, як укроп, лісце і карэнні хрэну, майранак, лаўровы ліст, перац, англійскае зелле, гарчыца. Заліць гарачай заліўкай, падрыхтаванай наступным чынам: на 1 шклянку 6-працэнтнага воцату ўзяць 5 шклянак вады, дадаць 1 1/2 дэкаў белай солі, 2 1/2 дэкаў цукру і закіпяціць. Агуркі і заліўка павінны не даходзіць 3 см да берагоў слоіка.

Берагі слоіка дакладна выцерці чыстай вываранай сціркай альбо салфеткай з паперы, палажыць на слоікі сухія гумкі, сухія крышкі і пружынкі. Уставіць слоікі ў каструлькі (добра было б на іх дно палажыць падкладкі з паперы) з такой колькасцю цёплай вады, каб даходзіла яна да 3/4 вышыні слоікаў. Кіпяціць каструлі са слоікамі 35 мінут (ад моманту, калі вада закіпіць). Слоікі адразу выняць з каструлек на стол, астудзіць, зняць пружыны і праверыць, ці яны закрыліся.

Калі якія-небудзь слоікі не закрыліся, выцерці насуха іх берагі, крышкі і гумкі. Слоікі закрыць і зноў пастэрызаваць.

### ПІКЛЕ З НАСЕННЫХ АГУРКОЎ

Калі вам не ўдалося выкарыстаць агуркі, пакуль яны былі яшчэ зялёныя, ёсць яшчэ рада і на тыя пераспелыя, жоўтыя.

Трэба іх памыць, абабраць, парэзаць уздоўж напалову, выняць насенне і мякіш. Нарэзаць агуркі палоскамі ўздоўж, пасаліць іх і паставіць на некалькі гадзін, пасля чаго зліць выдзеліўшуюся вадкасць.

Заліць кіпячоным, летнім 2-працэнтным воцатам і пакінуць да наступнага дня (у мінулым нумары, калі мы пісалі аб карнішонах, то падавалі, як падрыхтаваць 2-працэнтны воцат).

Зліць воцат з агуркоў, дадаць да яго яшчэ свежага воцату, закіпяціць, астудзіць, заліць ім агуркі. Гэтак паўтараць тры разы. За апошнім разам зліць воцат, а агуркі палажыць у слоікі, у якіх яны будуць захоўвацца.

Закіпяціць свежы 5-працэнтны воцат, дадаючы 5 дэкаў цукру на 1 літр воцату і прыправы: англійскае зелле, перац, лаўровы ліст, гарчыцу — 5 г на 1 літр воцату. Як падрыхтаваць 5-працэнтны воцат, мы таксама пісалі ў мінулым нумары.

Астуджаным воцатам заліць пікле. Заклеіць слоікі цэлафанам або абвязаць пергаментнай паперай.

Марынады перахоўваць у сухім, халодным месцы.

*Гаспадыня*

З ЖЫЦЦЯ УКРАІНСКАГА ТАВАРЫСТВА

# Канцэртны марафон

Арганізатарам гэтага канцэртнага марафону было Украінскае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы, якое ўжо чацвёрты раз арганізавала фестываль украінскай песні і музыкі.

У гэтым годзе такі фестываль адбыўся 27 чэрвеня ў Варшаве ў тэатры «Разрыўкі» на Павіслю. Прысвечаны ён быў 15-ай гадавіне УГКТ. Да гэтага фестывалю рыхтаваліся ўсе павятовыя і ваяводскія праўленні. З самай раніцы ля тэатра сабралася многа людзей. Большасць з іх — украінцы, яны размаўляюць на сваёй роднай мове. Адкуль іх узялося столькі? Яны прыехалі з розных канцоў Польшчы: са Шчэцінскага, Гданьскага, Кракаўскага, Жэшоўскага, Люблінскага, Ольштынскага, Беластоцкага і іншых ваяводстваў.

У прыгожым, сучасна абсталяваным тэатры сабралася больш 2 тысяч украінцаў і запрошаных гасцей. А сярод гасцей 31-асабовая група з Савецкай Украіны — прадстаўнікоў таварыства Савецка-польскай дружбы і прадстаўнікоў Украінскага таварыства культурнай сувязі з заграніцай.

Пачынаецца фестываль. З прывітальным словам выступае старшыня Галоўнага праўлення ўкраінскага таварыства — Мікола Каролька. Потым на сцэне паяўляецца (мо, больш як 100-асабовы) зборны хор УГКТ з Варшавы, Гданьска, Слупска і Перамышля. Дырыгуе ім музычны кіраўнік ГП УГКТ Яраслаў Палянскі.

Прагучала першая і адзіная на польскай мове магутная песня «Варшавянка» і украінская «Шалійтэ, шалійтэ».

Затым на сцэну ўваходзяць дзеці — хор пачатковай украінскай школы імя Тараса Шаўчэнкі з Белага Бору. Пад мастацкім кіраўніцтвам Ірыны Дрозд школьнікі выконваюць даволі прыгожа пяць украінскіх песень.

Змяняе школьнікаў моладзь ансамбля песні і танца агульнаадукацыйнага ліцэя з украінскай мовай навучання ў Гурове — Ілавецкім, а пасля ансамбль песні і танца агульнаадукацыйнага ліцэя з украінскай мовай навучання ў Лігніцы. Ліцэісты зачаравалі ўсіх прыгожымі народнымі украінскімі песнямі (першы калектыў выканаў іх 6, а другі 7) і танцамі. Адчувалася тут, што кіраўнікі — Тэофіль Шчэрба і Ірына Снегур, дырыжоры Веслаў Мажэўскі і Міхайла Дуда, а таксама харэографы — Войцех Мухляда і Генрыка Дзімітрыева ўклалі душу і сэрца ў падрыхтоўку ансамбляў, якія выклікалі ў прысутных незабыўныя ўражанні. Асабліва ансамбль песні і танца з Лігніцы задэманстраваў высокі мастацкі ўзровень. Танцавальны гурток і вакальная група гэтага ансамбля выступалі яшчэ два разы ў другой, пасляабедзеннай частцы фестывалю.

Дасканала выступілі вясковыя калектывы: народная жаночая група з вёскі Кальнікава і Баброўнік, а таксама народны хор з вёскі Лялькова. Яны без акампаніяменту, капелай, так добра спяваюць народныя песні, што нельга не падкрэсліць іх таленавітасці.

Першая, 4-гадзінная частка фестывалю складалася з выканаўцаў народнай украінскай песні, а другая — была канцэртам харавой і эстраднай песні. Выступілі тут салісты эстраднай групы «Салаўі» з Кракава, маладзёжная вакальная група «Сіняя стужачка» з Перамышля, вакальнае трыё эстраднай групы «Траянда» з Любліна, гурток бандурыстаў са Шчэціна, эстрадны гурток «Бескіды» з Перамышля, эстрадны гурток «Смерычка» з Бань-Мазурскіх, дуэт эстраднай групы УГКТ з Варшавы, а таксама хоры: зборны мужчынскі хор з Варшавы, Гданьска, Перамышля і Слупска, а таксама варшаўска-гданьскі мешаны хор.

Другая частка фестывалю украінскай песні і музыкі была доказам таго, што аматарскія калектывы могуць дасягнуць амаль прафесіянальнага ўзроўню. Выканаўцы — таленавітыя людзі. Адчуваецца, што яны любяць сваю родную песню і ёю жывуць.

Кожны калектыў, кожная група ўдзельнікаў фестывалю была апранута ў нацыянальныя касцюмы, якія выглядалі дасканала, пашыты былі ўмела і цікава.

І яшчэ адна цікавая асаблівасць. У Польшчы ёсць шмат артыстаў украінскага паходжання. І вось гэтыя артысты не цураюцца сваёй нацыянальнасці, не адхіляюцца ад украінскага таварыства, а наадварот, бяруць грамадска актыўны ўдзел у культурным жыцці, у мерапрыемствах, а перш за ўсё ў канцэртах самадзейных калектываў. У гэтым фестывалі выступалі саліст Вялікага тэатра ў Варшаве Уладзімір Дэнісенка, сімпатыкі ўкраінскай песні — артысты Бернард і Леанарда Ладыш, а таксама саліст шчэцінскага музычнага тэатра Міраслаў Краўчук.

Міраслаў Краўчук на спатканні з кіраўніцтвам Галоўнага праўлення Украінскага таварыства выражаў шчырую падзяку за тое, што яго запрашаюць на канцэрты разам з самадзейнікамі, таму што ён сваім удзелам у гэтых мерапрыемствах выражаў сваё нацыянальнае адзінства, сваю прыналежнасць.

*Міхась Хмялеўскі*

# ФІЛАМАЦКІ ПАРЫЎ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

*Філамацкі рух, хаця і зарадзіўся ў Вільні (а менавіта ў Віленскім універсітэце), адбіўся шырокім рэхам і на Беласточчыне. Вялікі ўплыў на беластоцкія падзеі аказалі таксама «дваранскія рэвалюцыянеры», як іх назваў Ул. І. Ленін, дзекабрысты, якія змагаліся за адмену прыгоннага права і самадзяржаўя.*

## Міхал Рукевіч

У 1825 годзе Міхалу Рукевічу было 30 гадоў. Паходзіў ён са шляхецкай сям'і, якая асела на мяжы Падляшша і Гродзенскага павета. Бацькі Міхала валодалі там вёскай Гожна, што знаходзілася ў Беластоцкім павеце. Марная аднак была там падляшская глеба. Бацькі Міхала вёску прадалі, а атрыманыя грошы аддалі дачцы і сыну. Сын Міхал грошай не змарнаваў. Пачаў вучыцца ў беластоцкай гімназіі. У 1812 годзе аднак разам з некалькімі сябрамі кінуў школу і, як гэта рабілі многія, хто верыў у тое, што Напалеон прынясе вызваленне айчыне, уступіў у конны полк літоўскай гвардыі, які якраз фарміраваўся і дзе сабраўся ўвесь цвет моладзі з літоўска-беларускіх зямель. Аднак у кастрычніку 1812 года, пад Слонімам, полк быў ганебна разбіты. Але Рукевіч змагаўся далей пад напалеонаўскімі сцягамі нават пры боку Напалеона, а 23 сакавіка 1814 года трапіў у палон. Мяркуюць, што ў наступным годзе ён вярнуўся дахаты. У кожным разе, у 1816 годзе ён паступае на маральнае аддзяленне Віленскага універсітэта, асабліва ахвотна вывучае палітычную эканомію, дзяржаўнае права і права рымскае, а таксама маральную тэалогію. 1 ліпеня 1820 года ён атрымаў ступень кандыдата юрыдычных навук.

Сярод сяброў карыстаўся Міхал Рукевіч шчырай пашанай і сардэчнымі адносінамі. Яму давяралі. Ужо ў канцы 1819 года ён уваходзіць у вузкі круг філаматаў, спачатку як член-карэспандэнт, а з чэрвеня 1820 года як сапраўдны член. Прымаў удзел у Таварыстве прамяністых. Гэта ён напісаў славуты «Pacierz», які чыталі на маёўках прамяністых і які выклікаў вялікае абурэнне духавенства, ды прычыніўся ў пэўнай меры да забароны маёвак. Аднак аб працы Міхала Рукевіча ў Таварыстве філаматаў на віленскім грунце вядома нам даволі мала.

Вядома аднак, што не была гэта натура гарачая, склонная да эфектных выступленняў. Ён хутчэй за ўсё быў тыпам чалавека спакойнага, памяркоўнага, крыху замкнутага ў сабе жыхара Падляшша, які меў глыбокія пачуцці і вялікі гарт душы.

Прывязанасць да роднага Падляшша перамагла, і пасля заканчэння вучобы ва ўніверсітэце не пайшоў Рукевіч дарогай урадніка-кар'ерыста. Ён пасяліўся ў фальварку Завыкі, што знаходзіўся над ракой Нарвай у чатырох мілях ад Беластока.

Суровая праца на зямлі не пазбавіла Рукевіча самых гарачых пачуццяў, не спусташыла яго розуму. Ён шмат чытаў у хвіліны, свабодныя ад заняткаў, з радасцю паглынаў сардэчныя лісты ад віленскіх сяброў.

У гэты час Міхала Рукевіча вельмі цікавяць школьныя справы. У Беластоку, пад пратэктаратам гетмановай Ізабелы Браніцкай, знаходзілася гімназія, якая ўзнікла ў другой палове XVIII ст. Беластоцкія настаўнікі падзяляліся на дзве партыі: адна слепа ішла за дырэктарам гімназіі Андрэем Лявіцкім і менш дбала аб школе, а больш глядзела, каб ім самім добра было; другая частка імкнулася падняць на вышэйшы ўзровень аўтарытэт свой і гімназіі. Менавіта да гэтай другой групы належалі: Марцін Жажыцкі, настаўнік грэчаскай і лацінскай моў, Антон Мацюнскі, настаўнік рыторыкі, і Зыгмунт Навіцкі, які выкладаў гісторыю і геаграфію. З. Навіцкі, пранікшыся філамацкімі ідэаламі, імкнуўся «пераліць у падляшскую моладзь: добры дух»*, па ўласнаму жаданню выкладаў бясплатна гісторыю Польшчы для цэлай гімназіі. Менавіта да гэтай групы маладых настаўнікаў наблізіўся Рукевіч і, між іншым, ён прычыніўся да таго, што дайшло ў іх да нейкага непаразумення з дырэктарам Лявіцкім, а вучні VI класа адмовіліся слухаць дырэктара.

Не толькі школьныя справы цікавілі Рукевіча. Ён імкнецца як мага лепш пазнаць сваё асяроддзе, а менавіта шляхту,ураднікаў, валасцян, а свае спасцярогі перадае сваім віленскім сябрам ці ў лістах (надзвычай асцярожна!), ці ў часе свайго прабывання ў Вільні. Рукевіч выказвае думку, што класы ніжэйшыя — бедныя і цёмныя, а шляхта — гэта людзі эгаістычныя, непаваротлівыя і раўнадушныя ў адносінах да сваёй краіны.

Дзякуючы сваёй энергіі, Рукевіч сабраў (у Гродне, Беластоку, Бельску, Драгічыне, Саколцы) людзей, якія клапаціліся аб народзе і гатовыя былі ў кожны момант аб'яднацца пад лозунгам працы і карыснай забавы. Яны стараліся зрабіць уплыў на сей-

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПАКУПКА МІНЕРАЛЬНЫХ УГНАЕННЯЎ

Ад 1 ліпеня пачаўся ў нашай краіне новы гаспадарчы год. Ад гэтага дня пачаўся продаж мінеральных угнаенняў, неабходных пад сяўбу азімых. Нагул склады гмінных спулдзельняў добра забяспечаны рознымі ўгнаеннямі. У грамадскіх радах ёсць планы пакупкі мінеральных угнаенняў для цэлых вёсак і на кожнага гаспадара.

Аднак пакуль што планы пакупкі выконваюцца яшчэ вельмі паволі. Вось як выглядае выкананне плана на дзень 30 ліпеня, г.зн. першага перыяду.

У вёсцы Баравікі план пакупкі ў чыстым рэчыве складае 10 тон. План выкананы на 2,9%. З 41 гаспадара толькі адзін купіў усе ўгнаенні, а другі — трэцюю частку. 39 сялян не купіла ані трохі. У вёсцы Грабарка план складае 10,9 т. выкананы на 0,72%. 25 сялян не пачало нават купляць угнаенні. У вёсцы Харашчэва план выкананы толькі на 1,2%.

У саміх Мілейчыцах план складае 84 тоны, а выкананы ледзь на 0,5%. Трое сялян выкупіла ўсё ўгнаенне, трое — на 70%, шасцёра — на 50%. 190 гаспадароў не пачало яшчэ купляць угнаенні. Усе разам жыхары Мілейчыцкай грамады купілі ў першы перыяд продажу ўгнаенняў толькі 3% плана.

Падобна выглядае справа з купляй мінеральных угнаенняў і ў грамадзе Клюковічы.

Найлепш выконвае план пакупкі мінеральных угнаенняў вёска Тымянка. Аніводнай тоны не куплена ў вёсцы Верпаль.

Гэтае становішча павінна быць сігналам трывогі для грамадскай сельскагаспадарчай службы, арганізатараў сельскай гаспадаркі ў гмінных спулдзельнях, вясковых перадавікоў аховы раслін.

Кожны селянін павінен разумець, што поўнае мінеральнае ўгнаенне ўзбагачае яго глебу неабходнымі пажыўнымі рэчывамі, што інтэнсіфікацыя мінеральнага ўгнаення мае рашаючае значэнне на павелічэнне ўраджайнасці.

М. Г.

## ВЫПІШЫЦЕ САВЕЦКІЯ ГАЗЕТЫ

У нашым ваяводстве ёсць нямала ахвотнікаў чытаць і выпісваць савецкія газеты і часопісы. Але не ўсе ведаюць, што савецкія газеты можна выпісваць на цэлы год ва ўсіх аддзелах ці дэлегатурах «Рух», ва ўсіх клубах кніжкі і прэсы «Рух» і ў нават некаторых вызначаных кіёсках «Рух».

Цяпер ідзе падпіска на 1972 год. Прымаюць падпіску толькі да 30 кастрычніка гэтага года.

Прадпрыемствы, школы і ўстановы робяць падпіску ў найбліжэйшым аддзеле або дэлегатуры «Руху».

У Беластоку падпіску прымае I раённы аддзел «Рух» па вул. Каперніка 93, тэлефон 2-27-85.

Не адкладайце падпіскі на потым, зрабіце гэта лепей адразу. (яч)

мікі і аддаць управу ў рукі людзей паўнацэнных, збіралі складку для аднаго вучня пры ўніверсітэце, а таксама на ўзнагароду за напісанне працы аб спосабах паляпшэння жыцця валасцян.

Філаматы даручаюць Рукевічу ўтварыць у Беластоку філарэцкія таварыствы, якія, у сваю чаргу, могуць ствараць павятовыя і парафіяльныя гурткі.

Неяк восенню 1821 года або ў пачатку 1822 года Міхал Рукевіч прадстаўляе філаматам праект утварэння філамацкіх таварыстваў на Беласточчыне. Паводле гэтага праекта, да таварыства мог належаць кожны жыхар ад 20 да 40 гадоў. Мэтай таварыстваў было: рабіць людзям дабро, удасканальваць свае веды, дапамагаць адзін другому, несці народу асвету, выбіраць добрыхураднікаў і г.д.

Нечакана Міхал Рукевіч быў адарваны ад гэтай працы загадам тагачаснага віленскага куратара Навасільцава. Ішоў якраз філарэцкі працэс, і падазрэнне падала таксама на Рукевіча, які нібыта меў пашыраць філамацкую арганізацыю на Беласточчыне. Рукевіч, аднак, катэгарычна запярэчыў усяму, доказаў віны не мелі, і праз пару месяцаў турмы яго звольнілі. Створаныя Рукевічам тайныя арганізацыі на гэты раз уцалелі. Былі яны выкрыты толькі ў 1826 годзе.

*Ада Чэчуга*

*) Henryk Mościcki „Pod znakiem Orła i Pogoni", ст. 137.

## ПАЖАР

7 жніўня ў Плёсках згарэў хлеў.

У нашай вёсцы ёсць пажарная каманда, але яна не была ў стане нічога тут зрабіць. Ёсць у нас і водаматорныя насосы, але няма найважнейшага — вужоў для падавання вады.

Аб гэтым ужо гаварылася і на вясковых сходах. Але аб гэтым не клапоцяцца пажарныя ўлады ў Бельску Падляшскім.

*Л. Леанюк*
*Плёскі*




Дарагое Сэрцайка!

Мінула чатыры месяцы, як я пазнаёмілася на забаве ў суседняй вёсцы з Янкам. Мы спадабаліся адзін аднаму. Янэк штонядзелю, а часам і часцей, прыязджае да мяне. Ён мае матацыкл, таму можа так часта мяне наведваць.

Нядаўна мы вырашылі пажаніцца. Мае бацькі згодны, і як толькі скончацца палявыя работы, хочуць выправіць нам вяселле. Нават вызначаны дзень, калі мы павязем у ЗАГС дакументы. І вось цяпер, калі ўсім у вёсцы вядома аб нашых прыгатаваннях да вяселля, ходзяць па вёсцы слыхі, што Янка мае няшлюбнае дзіця ў іншай, далёкай ад нашай, вёсцы. Бацькі мае папалі ў роспач. Я менш нервуюся, бо кахаю Янку і гатова перамагчы ўсе перашкоды, якія стануць на шляху да нашага шчасця.

Што рабіць, дарагое Сэрцайка: ці пагаварыць аб гэтым з Янкам, ці маўчаць і паводзіць сябе так, нібы нічога не здарылася? Чакаю хуткай парады.

*Ліда з Г.*

*Ліда!* Напэўна нельга прамаўчаць гэтай справы. Людзі (асабліва на вёсцы) ўмеюць пляткаваць, але здараецца, што гэтыя плёткі бываюць праўдай. Таму пакуль канчаткова вырашыш, пастарайся высніць усё гэта. Гэта ж вельмі важная справа, таму не можна так лёгкадумна сцвярджаць, як ты ў сваім пісьме. Раю табе пры першай сустрэчы з Янкам пагаварыць аб усім адкрыта, разам з бацькамі. Калі ўсё выясніцца і акажацца, што гэта сапраўды плётка, тады ўсё ўложыцца добра. Калі б справа выглядала інакш, лепш будзе, калі ты адмовішся ад Янкі. Гэта ж вельмі сур'ёзная справа. Аднак, не будзем папярэджваць факты, пры найбліжэйшай аказіі, думаю, справу высніце.

*Жадаю ўсяго найлепшага*
*Сэрцайка*

## НАШ СТАРШЫНЯ

Мы жывем у Грэдалях Бельскага павета. Наш гурток ЗМВ налічвае 30 чалавек, усе дзяўчаты і хлопцы, толькі старшыня наш Янэк Ігнацюк жанаты. Гэта наш найлепшы прыяцель. Дзякуючы яго ведам, ініцыятыве і энергіі, наш гурток ужо больш года лічыцца адным з найлепшых у павеце. Мы ўсе здзіўляемся, як наш старшыня ўмее знайсці час на ўсё: у яго ж сям'я, маленькі сын Андрэйка. Ён даязджае штодзень на працу ў Беласток ды і гаспадарку мае. Аднак яму яшчэ хапае сіл і ахвоты кіраваць працай нашага гуртка на карысць грамадства.

Па прапанове Янкі Ігнацюка мы ўдзельнічалі ў конкурсе саджэння дрэў. У гэтым конкурсе мы займаем добрае месца ў павеце і нас тыпуюць на ваяводскі конкурс.

Дзякуючы нашаму старшыні мы маем цяпер адрамантаваную святліцу. Перад рамонтам яна ледзь не валілася. Цяпер жа пастаўлены новыя бетонныя слупы, памаляваны сцены, зроблена новая падлога. І ўсімі тымі справамі кіраваў ён, Янэк Ігнацюк.

Мы ганарымся нашым старшынёй, нашым сябрам. Ведаем, што ён, калі служыў у арміі, таксама быў маладзёжным актывістам і атрымаў за сваю дзейнасць адзнаку прыкладнага салдата і шмат дыпломаў і ўзнагарод. Такая ўжо ў яго неспакойная душа.

*Сцяпан Б. і члены ЗМВ*

## ГАНДАЛЬ НЕ ПАСПЕЎ

У Сямяціцкім павеце жніво ўжо закончана. Цяпер можна спрабаваць выказаць некаторыя думкі і прапановы.

У час жніва мы наведалі некаторыя гандлёвыя пункты ў Мілейчыцах і Клюковічах.

Хапіла толькі кінуць вокам на прылаўкі, каб пераканацца, што вясковы гандаль не быў на патрэбным узроўні. Не хапала мясных вырабаў і напіткаў. У краме № 3 у Мілейчыцах не было ніякіх мясных кансерваў. Тое ж самае было і ў краме № 9 у Клюковічах. Няма напіткаў, вяндліны, масла. Хлеб прывозіцца сюды ў розныя гадзіны. Ніхто толкам не можа сказаць, калі яго прывязуць. Таму невыпадкова 12 жніўня мы бачылі чаргу людзей, якія чакалі, што павінны быць прывезены хлеб. Людзі вымушаны марнаваць час, які быў такім дарагім у гэты гарачы перыяд жніва.

Калі недахоп мясных вырабаў можна яшчэ тлумачыць нейкімі аб'ектыўнымі прычынамі, дык чым жа тлумачыцца тое, што ў краме сельскагаспадарчай прадукцыі ў Клюковічах няма ацынкаваных вёдраў, няма чыгунных дзверкаў для печак, няма машыннага алею. Прадаўшчык крамы заказаў алей для машын яшчэ на пачатку ліпеня. Відавочна, гандлёўцы з ГС-у і ПЗГС-у прывязуць яго зімой. Але, як гаворыць народная прыказка, лыжка патрэбна пры абедзе.

Хоць у гэтай краме былі камплектныя косы, але паасобных нажоў купіць было немагчыма. Гэта значыць, што калі некаму патрэбны нож за 3,40 зл., ён вымушаны быў купляць камплектную касу за 220 зл.

Такім чынам, лічу, што гандаль не справіўся са сваімі абавязкамі і не задаволіў самых неабходных патрэб сялян. Здаецца, што і кантроль з боку рад нарадовых быў недастатковы.

Нельга забываць, што яшчэ не скончыўся сезон палявых работ. Перад намі яшчэ малацьба, падарыўкі, капанне бульбы, сяўба. Неабходна, каб гандлёўцы дакладна праверылі на сваёй тэрыторыі, якіх тавараў, асабліва сярод матэрыялаў першай патрэбы, не хапае ў вясковых крамах.

*М. Гогель*

## ГАРЦЭРСКАЯ СТАНІЦА

У Бельскім павеце ТПД і аддзел асветы і культуры арганізаваў каля 30 вясковых дзяцінцаў, каб дзеці маглі быць у час палявых работ пад добрай апекай выхаваўцаў.

На жаль, гэтай апекай была памінута вялікая вёска Боцькі. Таму ініцыятыву ў гэтай вёсцы прыняў на сябе Саюз гарцэраў — штаб акцыі нялагернага лета. У Боцьках была арганізавана станіца. Весці станіцу ўзяліся інструктары ЗГП Марыля Пятрашка і Гражына Анішчук, жыхаркі Боцькаў. Спачатку цяжкасці былі з месцам на базу, з забеспячэннем. Але ў гэтым дапамог мясцовы гурток ЗМВ, які пазычыў палаткі, ложкі і коўдры. Таму ў станіцы знаходзілася 50 дзяцей з Боцькаў і суседніх вёсак Альшова, Верцень, Нурэц, Дубна і іншых. Ніколі яшчэ ў Боцьках дзяцінец не меў столькі ўдзельнікаў. Дзеці выконваюць заданні з «Падарожжа рабінзонаў 71» і гуляюць у розныя гульні.

У час дрэннага надвор'я дзеці займаюцца ў мясцовым клубе «Рух», у клубе селяніна ці ў школе. Кіраўнік школы пазычыў дзецям спартыўны інвентар. Заняткі з дзецьмі працягваюцца ад 8 раніцы да 7 гадзіны вечара. Так што маці вясковых дзяцей могуць спакойна працаваць у полі.

*Г. Садоўская*

## НА ГАЙНАЎСКІМ БАСЕЙНЕ



Гайнаўка не мае ніводнага месца для купання. Да найбліжэйшых рэк — Нарвы і Нараўкі адгэтуль аж дваццаць кіламетраў. Нічога тады дзіўнага, што гайнавяне найахвотней карыстаюцца басейнам. Басейн у Гайнаўцы пабудаваны дзесяць гадоў таму назад з фонду Тота-лётка. Побач галоўнага басейна ёсць басейн для дзяцей і з'язджальня (глядзі здымак). (яц)

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Biała pani" (czeski), 7—8. „Krwawa bajka" (jugosł.), 9—10. „Krajobraz po bitwie" (polski), 11—12.

**Арэшкава**

„Los człowieka" (radz.), „Drugi tor" (NRD), 11—12.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Ucieczka w kajdanach" (USA), „Wkrótce będzie koniec świata" (jugosł.), 8—12.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Янаў**

„Pan Dodek" (polski), 8—12.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Romanca na trąbkę" (czeski), 7—8. „Kwiecień" (polski), 9—10. „Pan Wołodyjowski" polski), 11—12.

**Мельнік**

„Świat grozy" (polski), 7—8. „Dziki swobodny" (ang.), 9—10. „Unkas — Ostatni Mohikanin" (rumuński), 11—12.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Pan Wołodyjowski" (polski), „Mocne uderzenie" (polski), 8—12.

**Новы Двор**

„Lunatycy" (polski), „Kto wierzy w bociany" (polski), 11—12.



**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

